№ 87 (4134)

9 лістапада 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

«Народная Воля»
в Twitter
www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook
www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte
www.vk.com/nvonlineinfo

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не здрадзім!

Шаноўныя сябры!

Разумеем: за некалькі нерабочых дзён ваш бюджэт пахіснуўся. Але спадзяёмся, што не настолькі, каб у Вас не засталося магчымасці падпісацца на “Народную Волю” на першую палову 2017 года. Немагчыма ўзгадаць усе выпрабаванні, якія выпалі на вашу і нашу долю ў апошнія два дзесяцігоддзі. У той жа час ні Вы, ні мы не здрадзілі сяброўству. Так не здрадзім і на гэты раз.

Заўважым: нягледзячы на ўсе цяжкасці, рэдакцыя захавала падпісны кошт на ранейшым узроўні. Будзем эканоміць на ўсім, але не ўвядзём Вас у дадатковыя расходы. Калі Вам складана аформіць падпіску адразу на шэсць месяцаў, зрабіце гэта на квартал. У рэшце рэшт, можна аднаўляць падпіску нават штомесячна.

Нагадаем нашы рэквізіты. Падпісныя індэксы газеты “Народная Воля”:

**63222** – для індывідуальных падпісчыкаў,

**632222** – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Руку на далейшае сяброўства, шаноўныя прыхільнікі свабоднага слова! Праўда, толькі праўда – вось да чаго мы імкнуліся і будзем імкнуцца заўжды. Мы служым не ўладам, мы служым Вам, нашы дарагія чытачы.

**Вы – з “Народнай Воляй”,**
**“Народная Воля” – з Вамі!**

***Рэдакцыя газеты.***

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна
для “Народнай Волі”

## У багне

Беларускі правадыр вярнуўся з працяглага вояжу да арабскіх шэйхаў. Трохі раней злётаў у Кітай, Пакістан (а на шляху з Ісламабада зазірнуў яшчэ і ва Узбекістан). Усюды гучалі дэкларацыі пра цудоўныя далягляды супрацоўніцтва, але насамрэч наш тавараабарот з краінамі так званай далёкай дугі падае. А нарастае хіба што адмоўнае сальда ў гандлі з Кітаем, Турцыяй і некаторымі іншымі краінамі. Іначай кажучы, яны нам свой тавар гоняць толькі так, а мы ім можам збыць усё меней.

Але і гэта не ўсё. Паводле дадзеных Белстата, за дзевяць месяцаў сёлета на 32,9% – амаль што на трэць! – абваліўся беларускі таварны экспарт у краіны Еўрасаюза. І гэта, заўважце, у той час, як Брусель скасаваў санкцыі і палітычныя дачыненні з Еўропай на пад’ёме. Парадокс тлумачыцца проста: патаннелі нафтапрадукты, калій, што складаюць ладную частку нашага экспарту. А прапанаваць еўрапейцам высокатэхналагічны тавар мы практычна не можам. Дый у далёкіх экзатычных краінах беларускай прадукцыі канкурыраваць усё цяжэй. Тыя ж багатыя шэйхі могуць яшчэ купіць, напрыклад, такую спецыфічную тэхніку, як цягачы МЗКТ, але не надта накінуцца на наш шырспажыў, многім відам якога далёка да найлепшых сусветных узораў.

Некалі беларускае начальства думала, што ўхапіла бога за бараду, прысмактаўшыся да льготных расійскіх энерганосьбітаў і сплаўляючы айчынную прадукцыю на вялікі (і месцамі не надта патрабавальны) рынак усходняй суседкі. Але цяпер Расія ў крызісе, яе рынак сціснуўся, а перапрацоўка атрыманай адтуль нафты не дае Беларусі ранейшых барышоў. Звыш таго, расіяне стварылі шэраг вытворчасцяў, аналагічных беларускім (гуляй, Вася, са сваім таварам!). Карацей, эканамічная прывязка да Масквы аказалася пасткай.

Здаецца, у Мінску гэта нарэшце асэнсавалі. Нядаўна міністр замежных спраў Уладзімір Макей у Варшаве наўпрост заявіў, што Беларусь хацела б аслабіць эканамічную залежнасць ад Расіі, асабліва шкодную падчас крызісаў. І гэта не проста словы. Зацверджаная ў жніўні Нацыянальная праграма падтрымкі і развіцця экспарту прадугледжвае, што да 2020 года экспарт мусіць размяркоўвацца у суадносінах трэць/трэць/трэць між ЕАЭС, ЕС і астатнім светам (у тым ліку краінамі далёкай дугі).

Таму і курсіруе па гэтай дузе “Боінг” Аляксандра Лукашэнкі, а дыпламатам загадана прадаваць айчынную прадукцыю дзе толькі можна хоць па чайнай лыжцы. Але які вынік? У беларускім замежным гандлі доля Расіі (ад якой, паводле сцвярджэння Макея, хочам эканамічна хоць трохі адвязацца) сёлета толькі вырасла, дасягнуўшы, паводле звестак Дзяржаўнага мытнага камітэта, 51% па выніках васьмі месяцаў года. Такая тэндэнцыя азначае, паводле звестак даследчыкаў CASE Belarus, “рост рызыкаў што да захавання ўразлівасці эканомікі Беларусі да знешніх шокаў, у прыватнасці да сітуацыі ў эканоміцы Расіі”.

Дадам: стратэгічнай памылкай у гэтым плане стала рашэнне будаваць Беларускую АЭС – па расійскім праекце, за расійскі крэдыт, з разлікам на расійскае паліва. Нічога сабе дыверсіфікацыя!

Па вялікім жа рахунку, Беларусь сёння расплачваецца, па-першае, за гульні яе самаўладнага кіраўніцтва ў “братнюю інтэграцыю” (як кажуць рускія: уваход – рубель, выхад – два), а па-другое, за адсутнасць сапраўдных рэформаў.

Лукашэнка, адкідваючы прынцыповую перабудову эканомікі, прыватызацыю, па-ранейшаму спрабуе ажывіць дзяржаўныя прадпрыемствы-зомбі, не здольныя выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю. Між тым ні брусельскія функцыянеры, ні кітайскі лідар Сі Цзіньпін, ні турэцкі прэзідэнт Эрдаган, што прылятае ў Мінск 11 лістапада, не могуць загадаць сваім бізнесменам купляць беларускі тавар, калі ён не вытрымлівае канкурэнцыі. Нават сябры-аўтарытарысты не камандуюць эканомікай так груба, брутальна, як гэта робіць Лукашэнка.

Так што палёты прэзідэнцкага “Боінга” па далёкіх дугах рызыкуюць ператварыцца ў суцэльны палітычны турызм. А ў рэшце рэшт зноў давядзецца ляцець вырашаць эканамічныя пытанні “па паняццях” у Маскву. Днямі адтуль акурат прасачылася інфармацыя, што рыхтуецца сустрэча Пуціна з Лукашэнкам. Крэмль, пэўна ж, зноў нешта адшкадуе, але пры гэтым пастараецца мацней узяць на кручок. Паводле расійскіх СМІ, умовай, каб аднавіліся аб’ёмы паставак нафты, можа быць абавязак Беларусі экспартаваць нафтапрадукты не праз Прыбалтыку, як цяпер, а праз болей далёкія расійскія парты (якія яшчэ і замярзаюць).

Такім чынам, хоць і робіць айчыннае кіраўніцтва сутаргавыя рухі пад лозунгамі дыверсіфікацыі, краіна рызыкуе толькі глыбей загразнуць у багне залежнасці ад Масквы.

СТОП-КАДР




## Як Сяргей Клішэвіч бараніў Леніна…

Чалавек у акулярах с парванай улёткай у руцэ… Плакаць хочацца ад аднаго выгляду – быццам на пахаванні роднага бацькі. А здымак зроблены ўсяго падчас адкрыцця помніка Леніну ля прахадной Мінскага трактарнага завода.

“Чалавек у акулярах” зверам накінуўся на лідара маладафронтаўцаў Дзмітрыя Дашкевіча, які хацеў данесці інфармацыю пра жудасныя злачынствы бальшавіцкага рэжыму. Як жа – ён, Сяргей Клішэвіч, другі сакратар Цэнтральнага камітэта Беларускага саюза моладзі, член Камуністычнай партыі Беларусі, можа дапусціць, каб людзі ведалі праўду пра крывавага правадыра! Ва ўсім цывілізаваным свеце ленінапад, але толькі не ў нас, у Беларусі. Вунь якога Ільіча паднялі на новы пастамент ля галоўных варот МТЗ!

Яго б, “чалавека ў акулярах”, – ды на галоўны канвеер Трактарнага завода! Глядзіш, і не давялося б кіраўніцтву прадпрыемства, як тым жа многім Леніным-помнікам, стаяць з працягнутай рукой перад дзяржаўнай казной.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Штрафы за сцяг

Сёння, 9 лістапада, у Баранавічах будзе разглядацца адміністрацыйная справа **Уладзіміра Гундара і Юрыя Казакевіча**. Іх абвінавачваюць у парушэнні парадку правядзення і арганізацыі масавых мерапрыемстваў: 13 кастрычніка грамадзянскія актывісты збіралі ў Баранавічах подпісы за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці. Як вядома, падобныя мерапрыемствы праходзілі ў рамках агульнарэспубліканскай акцыі з 19 верасня па 19 кастрычніка ў многіх гарадах краіны. Было сабрана больш за 12 тысяч подпісаў. Лісты з подпісамі перададзены ў Міністэрства культуры.

Дарэчы, Гундар і Казакевіч не адзіныя, каго будуць судзіць за збор подпісаў за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу гістарычнай каштоўнасці. Менавіта за ўдзел у такіх акцыях суд Цэнтральнага раёна Мінска ўжо пакараў штрафам у памеры 30 базавых велічынь (630 рублёў) актывіста зарэгістраванага ў Чэхіі “Маладога фронту” **Сяргея Пальчэўскага.**

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## Мусульманская святыня ў Мінску

*Чакаецца, што 11 лістапада прэзідэнты Беларусі і Турцыі Аляксандр Лукашэнка і Рэджэп Таіп Эрдаган урачыста адкрыюць адзіную ў Мінску саборную мячэць. За некалькі дзён да мерапрыемства адну з галоўных мусульманскіх святыняў Беларусі наведаў карэспандэнт “Народнай Волі”.*

***Працяг на 2-й стар.***



СУМНА!

## Чалавек пакутуе

Беларускі пісьменнік Леанід Маракоў, гісторык, энцыклапедыст, які вярнуў у беларускую гісторыю імёны многіх рэпрэсаваных, знаходзіцца ў хоспісе. У яго пухліна галаўнога мозгу. Пра гэта паведаміў сын пісьменніка Дзмітрый.

Паводле слоў Дзмітрыя Маракова, пухліна была прычынай таго, што на пачатку года Леанід перажыў інсульт. Цяпер ягоны стан цяжкі, ён знаходзіцца ў дзяржаўным хоспісе. Пра яго клапоцяцца сын і дачка, але патрэбна прафесійная сядзелка. На яе ў сям’і няма сродкаў. Аднак пасля звароту блізкіх да грамадскасці на рахунак для дапамогі Леаніду Маракову пачалі паступаць грошы.

На знікненне Леаніда Маракова з публічнай прасторы звярнулі ўвагу ягоныя сябры ў сацыяльнай сетцы “Фэйсбук”. Пісьменнік мае вельмі актыўны акаунт і шмат падпісчыкаў. Але апошні пост на ягонай старонцы з’явіўся 21 верасня.

У выдавецтва “Мастацкая літаратура” да галоўнага рэдактара Віктара Шніпа пісьменнік прыходзіў яшчэ раней, 7 верасня. Віктра Шніп успамінае, што ён выглядаў вельмі стомленым: “Лёня развітаўся са мной і паплёўся з Наталляй па доўгім паўзмрочным выдавецкім калідоры да ліфта. Я глядзеў ім услед, і мне здавалася, што да мяне прыходзілі прывіды Леаніда і Наталлі Мараковых…”

**Алена МАЛОЧКА.**

ТАМ, В УКРАИНЕ…

## Мавр должен уйти…

Как ни парадоксально, шиллеровская цитата «*Мавр сделал свое дело, мавр может уходить*» очень емко и точно характеризует нынешнею отставку Михаила Саакашвили с поста руководителя Одесской областной государственной администрации.

Сам Саакашвили в своей прощальной речи горько заметил: «*Меня еще никто в жизни так цинично не обманывал!*» И действительно, грузинского «рубаху-парня», имевшего имидж победителя коррупционной гидры в своей стране, безжалостно попользовали и выбросили на обочину истории в Украине.

Саакашвили наивно полагал, что кто-то из украинских «элит» действительно хочет провести антикоррупционные реформы в этой многострадальной стране. Михаил Николозович, вероятно, рассчитывал на то, что если у него получилось в Грузии, то обязательно должно получиться и в Украине. Поверив на слово людям, которым доверял, он влез в гиблое и неперспективное для себя дело. А ведь история показывает, что в Украине надо с опаской относиться к слову, данному представителями «политических элит».

Всем известно, что на должности главы областной администрации одного из прибыльных регионов Украины Саакашвили сменил Игоря Палицу – бизнес-партнера некогда влиятельнейшего украинского олигарха Игоря Коломойского. Вступив в должность, Михаил Николозович активно вмешался в экономические интересы этой финансово-промышленной группы и значительно снизил их аппетиты в регионе.

Не менее активно использовали Михаила Саакашвили как таран в снижении влиятельности еще одного украинского «тяжеловеса» Арсения Яценюка в бытность того премьером. Активность Саакашвили наряду с другими факторами привела к обнулению рейтинга Арсения Петровича и стоявшей за ним политической силы – «Народного фронта», формально выигравшего по пропорциональной системе парламентские выборы осенью 2014 года.



Активно поучаствовал Михаил Николозович в популяризации партии Порошенко и его представителей в череде различных избирательных компаний, прошедших в период 2014–2015 годов.

Выполнив свои обязательства, Саакашвили справедливо предполагал, что и ему окажут содействие в его работе по превращению Одесской области в «причерноморскую жемчужину». Однако расчет на то, что успешные реформы в отдельно взятом регионе Украины позволят грузинскому политику вновь оказаться на первых политических ролях, не оправдался. Причина: слово, данное Михо, никто не собирался выполнять. Произошла банальная для Украины имитация содействия работе одесского губернатора, пока он еще был полезен в роли «президентского терминатора». Но после громкой отставки Яценюка и прихода на должность руководителя Кабинета министров человека Петра Порошенко Михо попросту перестал быть нужен. Более того, стал чересчур большим раздражителем среди «украинских элит» как для самого Петра Алексеевича и групп, стоящих за его спиной, так и для оппонентов провластной вертикали.

В статье «Произошла ли перезагрузка?», опубликованной в «Народной Воле» практически год назад – 20 ноября 2015 года, я констатировал, что реванш старой коррумпированной власти в Украине уже произошел, и задавался вопросом, насколько долго еще хватит терпения как у борца с коррупционерами Михаила Николозовича, так и у Петра Алексеевича, олицетворяющего всю власть в стране. Уже тогда было очевидно, что отставка Саакашвили предрешена и своих целей он добиться не сумеет.

Не сумел по нескольким объективным причинам. **Первая**, о которой я уже упоминал выше, – это та, что ему не суждено стать своим среди политических «элит» нынешней Украины. Слишком велика пропасть в целях и задачах, которые они ставят перед собой. **Вторая:** в Грузии успех Саакашвили опирался на командные действия. Там не только «низы» не хотели жить по-старому, но и достаточно значительная часть «верхов» хотела другой, «цивилизованной» жизни, чего не случилось в Украине. Здесь желания «низов» категорически не совпадают ни с желаниями «верхов», ни с их интеллектуальными возможностями. **Третья**, не менее важная, причина – это фактор самого Михаила Николозовича, который так и не смог выстроить правильную стратегию при входе на политический рынок Украины, не сумел сформировать новую перспективную команду, способную сменить старые управленческие кадры, не сформировал влиятельный ресурсный пул украинских инвесторов, способных поддержать его политические проекты. Есть еще достаточно много ошибок, которые сопровождали Саакашвили на протяжении его публичной активности в Украине. Все это ляжет тяжелыми гирями на «чашу весов» новой оппозиционной деятельности, о которой заявляет Михо и члены его немногочисленной команды.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

